Opłata pocztowa opłacona ryczałtem

Цана асобнага нумару 15 гр.

# РОДНЫ КРАЙ

Орган Т-ва Беларускае Асьветы — выходзіць 4 разы ў месяц.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Езуіцкая вул. 6, кв. 4.

Прыймо інтэрэсантаў: у Сэкрэтар'яце ТБА—у будні ад 10—12 г. у Рэдакцыі „ ад 12— 2 г.

Цана падпіскі з дастаўкай поштай: За год 5 зл. 50 гр.; за паўгоду—3 зл. за 3 месяцы — 1 зл. 60 гр.; за 1 месяц — 60 грош.

№ 17 (42) | Вільня, 20-га ліпня 1934 г. | Год 2-гі.

## Грамадзянства й Улада.

У прошлым нумары „Роднага Краю, падаючы да ведама назначэньне Міністрам Унутраных Спраў гр. М. Косьцялкоўскага, мы выказалі надзею, што можа ўрэшце гэты міністар займецца больш дакладна беларускаю справаю ды пастараецца паставіць яе на дзяржаўны стол для канчальнага й справядлівага вырашэньня,

І вось, некаторыя адзінкі так з польскага як і беларускага грамадзянства паставілі ізноў нашай групе, згуртаванай каля „Роднага Краю" ў Т-ве Беларускай Асьветы, закід, што мы заўсёды беспасрэдна зварочваемся да ўладаў, памінаючы быццам у гэтых пытаньнях польскае грамадзянства, з якім недастатачна „сконтактаваны".

На чым палягаў-бы такі „контакт", гэтыя людзі самі акрэсьліць ня могуць.

І зразумела, бо-ж тэрмін „контакт" зьяўляецца паймом вельмі й вельмі неакрэсьленым. Спатыкаецца ён пераважна ў камуністычных працэсах пры адсутнасьці якіх-небудзь довадаў віны абвінавачанага.

Вось і ў гэным выпадку роблены нам закід па першае ня мае абсолютна ніякай падставы, а па другое такі „контакт„ існуе ад даўна. Яшчэ ў 1930 годзе грам. Р. Астроўскі прачытаў у выпаўненай па берагі польскім грамадзянствам вялікай салі рэпрэзэнтацыйнага палацу вельмі цікавы даклад на тэму: „Аб праграме ў беларускім пытаньні". У дакладзе сваім гр. Р. Астроўскі ўсебакова разгледзіў гістарычнае разьвіцьцё польска-беларускіх узаемаадносінаў на працягу апошніх 25 гадоў ды накрэсьліў зусім конкрэтную праграму рэалізацыі згоднага сужыцьця польскага і беларускага народаў.

З прычыны познага часу, дыскусыі над ўспомненым дакладам так і ня было, але прадстаўнікі багата рэпрэзэнтаванага там польскага грамадзянства паабяцалі вярнуцца да закранутага гр. Астроўскім пытаньня ў найбліжэйшым часе.

І вось прайшло ўжо 4 гады, а польскае грамадзянства так і не знайшло часу на разгляд балючых для нас пытаньняў, бо-ж дыскусыі, якія адбываюцца на Антокалі сярод невялічкай кучкі людзей, нельга лічыць адказам на пастаўленыя гр. Р. Астроўскім пытаньні.

Зьбіраецца там публіка вельмі сымпатычная, калі можна так выразіцца, самая разнашэрстная. Тэмы на зборках парушаюцца даволі часта цікавыя. Ініцыятары гэтых зборак бязумоўна былі акрылены вельмі высокімі „парывамі"— выцягнуць на сьвет Божы тыя балячкі нашага грамадзкага жыцьця, якія служаць перашкодаю да згоднага сужыцьця ўсіх народаў, засяляючых гэты край ды па магчымасьці знайсьці лекі на выкрытыя хваробы, але пастаўленай сабе мэты, здаецца, так і не дасягнулі. Калі-ж ходзіць аб беларускую справу, то вось не зважаючы на тое, што сярод згуртаваных там людзей ёсьць некалькі такіх, што л'чаць сябе амаль-што адзінымі „спэцамі" ў гэтым пытаньні, яно, як бачым, не скранулася з месца, а прынамсі не дало ніякіх пазытыўных вынікаў.

Наадварот, апошнімі часамі пад уплывам, відаць, пэўных беларускіх „дзеячоў", якія праціснуліся туды, хочучы выкарыстаць гэтую організацыю выключна для сваіх асабістых мэтаў, і гэная група, нажаль, далёкая стала ад аб'ектывізму. Аб гэтым найлепш сьведчаць апошнія яе вельмі аднабока-тэндэнцыйныя прэсавыя выступленьні.

Урэшце трудна было-б гэную невялічкую групу ўважаць за адзіную рэпрэзэнтантку польскага грамадзянства.

Вось дзе з аднаго боку крыюцца тыя прычыны, якія змушаюць нас часта зварочвацца беспасрэдна да ўладаў, з другога-ж боку прадстаўнікоў сучаснага (памаёвага) ўраду якраз мы ня можам лічыць адарванымі ад свайго грамадзянства, а наадварот — уважаем іх за найбольш актыўныя і здольныя адзінкі польскага грамадзянства, якіх вылоўлівае Маршалак Я. Пілсудскі сярод свайго акружэньня.

І мы думаем, што якраз яны, людзі працы й вялікае ініцыятывы, і возьмуцца за вырашэньне тых пытаньняў, якія дасюль яшчэ не знайшлі канчальнае разьвязкі.

Ня ўкрываем, што асабліва ад сучаснага Міністра Унутраных Спраў гр. М. Косьцялкоўскага мы спадзяёмся рашучых крокаў у гэтым кірунку. Трэба праўду сказаць, што ён, адзін з Міністраў Унутраных Спраў, які найбольш зьвязаны з нашым краем і які мо' найбольш орыентуецца ў справах якраз беларускіх.

А дзякуючы таму, што беларускае пытаньне зьяўляецца цяпер справай польскай унутранай дзяржаўнай палітыкі, дык яно і павінна стацца аднэй з галоўных задачаў сучаснага Міністра Унутраных Справаў Польшчы.



## „Фронтам да вёскі".

Пад такім загалоўкам зьмешчаны быў у № 188 „Кур'ера Віл." з дня 13. VII. г. г. артыкул, дзе нейкі польскі культурна-асьветны дзеяч дзеліцца сваімі ўражаньнямі з падарожы па Пастаўскаму павету, куды ён, як відаць, выяжджаў з мэтаю прачытаць лекцыю.

Прыймаючы пад увагу, што аўтар гэнага артыкулу зусім шчыра закрануў шмат балячек нашае беларускае вёскі ды ў канцы зрабіў пэўныя вывады і заклік да ўсяе інтэлігэнцыі, хачу на гэтым месцы даць пэўныя тлумачэньні незразумелых для яго зьявішчаў псыхікі беларускага народу ды пашырыць і паглыбіць тыя вывады, якія выцякаюць з запраўднасьці вясковага жыцьця.

Перш-на-перш, як зазначае панок гэты на пачатку свайго апавяданьня, яму прышлося ехаць па нашаму краю пад апекаю паліцыянта, бо, як кажа далей, „ад часоў Грамады тут ніхто ня можа паказацца сам", а дзеля таго, што едзе як дэлегат пэўнага культурна-асьветнага Т-ва, „мусіць мець апякуна".

Шкада па першае, што аўтар не называе нам таго „культурна-асьветнага Т-ва" дэлегаты якога

эмушаны праводзіць сваю „Культурную місію“ толькі пад апекаю паліцыянта, а па другое нам здаецца, што ў страха вочы вялікія. Гэта апошняе несьвядома пацьвярджае на'т сам аўтар, перадаючы нам гутарку падчас падарожжы са сваім апякуном.

Нам здаецца, што гэвае культурна-асьветнае Т-ва лепш-бы зрабіла, каб зусім не пасылала такіх дэлегатаў на вёску, а даручыла-б зрабіць гэта вось таму паліцыянту, які эмушаны быў конваяваць панка з гораду. Пажытак з гэтага быў бы падвойны, бо і грошай ня трэба было марнаваць на падарожжу (ды мо' яшчэ з дыетамі?) і паліцыянт той напэўна больш заразумела вытлумачыў-бы, аб што хадзіла гэнаму Т-ву. Бо-ж паліцыянт, прабыўшы, як сам кажа, пару гадоў сярод нашага народу, зразумеў, што: 1) трэба тлумачачы паслугоўвацца крыху іх моваю (г. зн. беларускаю), бо гэта вельмі памагае і вытварае прыхільны настрой. 2) цяпер (ён паліцыянт) ідзе й едзе свабодна куды хоча сам адзін,. кожны селянін да яго мае справу і ён мусіць рад ці ня рад, *даваць усім раду і памагаць.*

Як відаць з гэтага разумны чалавек зразу сьцяміў, што на тое, каб стварыліся даверчывыя адносіны беларускае вёскі да ўлады, трэба не чапляцца да ўсякага „глупства“ ды паказваць сваю хванабэрыю, а палюдзку растлумачаць ды чым можна *памагчы.*

Той, хто так будзе адносіцца да нашага народу, спаткае ў ім свайго прыяцеля.

Толькі тлумачыць беларусам трэба не „папростаму“ як рабіў, гэта на сваёй лекцыі ўспомнены дэлегат культурна-асьветнага Т-ва, а проста *пабеларуску*, г. зн. так, як радзіў яму ягоны апякун-паліцыянт.

Да ліха! калі-ж урэшце культурна-асьветныя дзеячы з успомненых польскіх грамадзкіх установаў зразумеюць, што дзяржаўная праца ў нашым краю не палягае на апалячваньні беларускай вёскі, а толькі й выключна: 1) на пашане да найдаражэйшага скарбу кожнага народу якім зьяўляецца яго родная мова, 2) на справядлівым, шчырым і чэсным здавальненьні яго элемэнтарных балючых патрэбаў.

А такою элемэнтарнаю, балючаю патрэбаю для беларускага народу ў сучасны мамэнт ёсьць, як ведама, школа ў роднай беларускай мове.

Дайце яму такую школу, а вельмі хутка пераканаецеся, што ня трэба будзе мабілізоўваць, як гэта прапануе аўтар „Frontem do wsi“ з „Kurjera Wil.“, „студэнтаў, вучыцялёў, дактароў, адвакатаў і ўрадоўцаў, выконваючых закон“ для злагаджэньня „цяжару дзяржаўных павіннасьцяў“.

Беларускі народ зразумее тады, што справядлівыя і чэсныя адносіны да яго правоў вымагаюць такіх жа чэсных і акуратных выконваньняў дзяржаўных абавязкаў.

Беларуская школа прышчэпіць гэнаму мораль яшчэ на школьнай лаўцы і не патрэбны будуць розныя гастралёры, што ня могуць паразумецца з народам без паліцыі.

На заканчэньне нашае палемікі на тэму „Фронтам да вёскі“ не можам абыйсьці моўчкі яшчэ аднаго сказу, дзе ўспомнены аўтар, разважаючы над справай былой грамады, даслоўна кажа: „.. бо хто-ж стварыў Грамаду, калі не нягодная няздарная, зложаная з розных шумавін цэнтральных ваяводзтваў, перадмаёвая адміністрацыя, з тупою эндэцкаю псыхікай. Камуна даліла толькі крыху туды алівы“.

Выбачайце, паночкі, што тут катэгарычна запратэстую: грамаду стварылі не эндэкі, а беларускі народ!

Што камуна даліла туды шмат алівы, то гэта праўда, але не памагла-б і камуністычная аліва, калі-б на беларускіх землях панавала тады пашанаваньне права і законнасьці.

Эндэцкая тупалобая адміністрацыя разважала тады н'ат не „па простаму“, як гэта робіць сучасны лектар, а *„па панску“* і з „беларускім хамам тым хамскім ёнзыкем розмавяць не хцяла“.

Не рабіце-ж падобнае памылкі і Вы, якія як відаць шчыра хочаце наладзіць згоднае сужыцьцё гэтых двох народаў: польскага і беларускага, кіньце Вашыя лекцыі „по простэму“, а чытайце лепш *папольску*, адначасна даючы нам магчымасьць прамаўляць да свайго народу *пабеларуску.*

Пры добрых, справядлівых і шчырых адносінах беларускі народ патрапіць аддаць належную пашану й польскай мове ды напэўна захоча яе пазнаць усебакова. Не накідайце толькі яе гвалтам, бо-ж з усякага гвалту родзіцца гвалт і былая Грамада можа ў будучыні зьмяніцца натоўпам, а гэта бязумоўна не пажадана так для Вас як і для нас. *Эра.*

# Расейцы разбураюць царкву.

З прычыны дзесятых угодкаў заснаваньня ў Роўне (на Валыні) украінскае гімназіі, 17 VI. 34 г. у Роўненскім праваслаўным саборы мела адбыцца ўрачыстая служба, на якую быў запрошаны епіскап Палікарп. Дзякуючы таму, што на блізу 2000 прыхаджан роўненскага сабору толькі 400 асоб прыпадае на расейцаў, а рэшта на украінцаў і таксама з увагі на чыста украінскі характар успомненага сьвяткаваньня, епіскап Палікарп адпраўляў багаслужэньне хоць і ў царкоўна славянскай мове, аднак з вымовай украінскай, а не расейскай. Трэба ведаць, што украінцы ўжо даўно ад Вышэйшых Духоўн. уладаў атрымалі дазвол на адпраўленьне багаслужэньняў ня толькі ў царкоўна-славянскай мове з ўкраінскай вымовай, але навет на чыста украінскай мове, так што ўспомненае багаслужэньне епіскапа Палікарпа ня было нейкім яго палітычна-нецаркоўным выбрыкам ці праступкам. Тым ня менш жменька расейцаў—эмігрантаў з прычыны гэтае службы выклікала ў царкве скандал, які голасным рэхам адбіўся па цэлай Польшчы. Запачаткаваў гэны скандал сам настаяцель Роўненскага сабору а. Сайковіч. Ён і яму падобныя „батюшкі“, як толькі пачулі, што еп. Палікарп адпраўляе багаслужэньне хоць і пацаркоўна-славянску, але з прыроднай яму, як украінцу, украінскай вымовай, дэманстрацыйна пакінулі царкву, не жадаючы служыць з еп. Палікарпам, быццам гэтым Уладыка спракудзіў свой епіскапскі сан.

Ясна, для адпаведна разагітаваных расейцаў такое захаваньне самага настаяцеля было толькі заахвочваньнем да далейшых скандалаў. І сапраўды, 19.VI.34 г. той-жа а. Сайковіч сабраў у саборы роўненскіх расейцаў („подлинных прихожан“, „подлинных молитвенников“ як іх акрэсьліла, пратэгуючая гэты скандал, мітрапалітальнае „Слово“) і тут-жа быў сфабрыкаваны дакумэнт, які ад імя быццам абсалютнай большасьці прыхаджан дамагаўся ад Вышэйшых Духоўных Уладаў, каб багаслужэньні ў саборы вяліся ў царкоўна-славянскай мове ясна з расейскай вымовай. Адно даведаліся аб гэтай махінацыі «подлинных молитвенников» прыхаджане украінцы і на чале з паслом Скрыпнікам таксама зьявіліся ў саборы. Відаць, аднак, расейцы іх туды не хацелі пусьціць, бо, як прызналася адна з расейскіх віл. газэт, украінцы мусілі ў сабор «ворваться». Прыбыўшыя зажадалі паказаць ім зьмест заявы, на якую зьбіраліся подпісы ад імя ўсяго прыходу. Разагітаваныя расейцы ня толькі не паказалі свой фальсыфікат, але тут-жа ў царкве абабілі пасла-украінца і выкінулі яго за дзьверы. Сьв. Сайковіч не ўстрымоўваў сваіх разьюшоўшыхся „авечак“, але найспакайней пакінуў сабор і пайшоў у хату, маўляў не жадаючы ім перашкаджаць. У цэлай гэтай гісторыі бачым наступныя факты. Сьв. Сайковіч з невялічкай жменькай сваіх „авечак“:

1) публічна зьневажылі свайго епіскапа,

2) зрабілі з царквы арэну палітычнае барацьбы.

Вось-жа, прыняўшы ўсё гэта пад увагу, сьв. Сайковіч павінен быў-бы панесьці належную кару. Тымчасам, за асобу сьв. Сайковіча расейцы адпраўляюць «благодарственныя» малебны, і што найбольш дзіўным зьяўляецца, мітрапалітальны орган «Слово» зьмяшчае на сваіх старонках прывітаньні сьв. Сайковічу, робячы з яго гэроя-мучаніка.

Амаль тое самае робіцца і ў нас.

У сёлетнім годзе скончылі Студыюм Прав. Тэолёгіі ў Варшаве 8 чалавек—беларусаў, паходзячых з Віленшчыны. Як знаючыя свой край і кроўна з ім зьвязаныя, яны павінны былі-б атрымаць прыходы ў тэй-жа Віленшчыне. Тымчасам, ім ня толькі не даюць прыходаў у

# Настулька.

*(Расказ)*

(Гл. № 16 „Р. Кр.“).

— Я вам жадаю шчасьця, — казала яна, — і шчасьця жадаю ўсім: Аксені-варажбітцы, Якімку Кульгаваму, пастушку Алесю-сіраце, усім чатыром хлопчыкам і пяцём дзяўчаткам, якіх зімою, па хатах ходзячы, беларускай граматы вучыла. А якія здольныя яны, гэтыя мужыцкія дзеткі! Хто ведае, што магло-б з іх выйсьці, каб ня наша цемра беларуская ды ня беднасьць страшэнная. І вы, і я — дзеці гэтае цемры, толькі мне пашчасьціла, здалёк адсюль, праменьчык сьвятла злавіць. Вы—зусім ужо тутэйшы. Павашаму, дык працуеце толькі вы, ваш сват, мой бацька, і наагул кожны той, хто ў вёсцы жыве ды зямлю арэ. А ў горадзе,—здаецца вам,—адны толькі гультаі жывуць ды газэты сабе чытаюць. Адкуль-жа вам ведаць было, што ў горадзе цэлыя грамады людзей куды цяжэй, як мы тут, жывуць. І шчасьлівыя яны, калі яшчэ працу маюць. Бо часам і працы ім не хапае. А з гэтага голад, распуста і розныя няшчасьці, як у нашых лясох грыбы, вырастаюць. Скажэце, ці павашаму, сторож дамовы, які кожны дзень чуць сьвет падворак і вуліцу мяце, не працуе? Ці ў душнай фабрыцы работнік газэты сабе чытае? Ці шахцёр, дабываючы з страшэннае глыбіні вугаль, жалеза або іншую руду якую, не працуе? Ці напрыклад, той, хто выдумаў радыё, аэрапляны, чугунку, тэлеграф, самаходы і шмат-шмат іншага — таксама не працаваў? Праца ёсьць усюды, дзе чалавек жывае, толькі розная яна. Мы вось купляем у мястэчку соль або газу, сернічкі ці мыла. А ці-ж гэта ўсё само родзіцца? Усё дабыта або выраблена працаю людзей. Шкада, што вы чытаць ня любіце. Я дала-б вам кніжак, з якіх шмат чаго цікавага вы маглі-б даведацца.

— Мала вучылі мяне, — сумна сказаў Міхась, — мне цяжка чытаць, хоць ніхто ня кажа, што я гультай і хожная *наша* работа аж гарыць у мяне ў руках.

— Чытаць цяжка, вучылі мала, вось у гэтым і бяда ўся нашая, — казала Настулька далей. — Каб чытаць было лягчэй ды вучылі ўсіх болей, дык і зямля нам мусіла-б больш даваць; і тут іначай жылі-б, іначай на сьвет глядзелі-б, менш на гарэлку налягалі-б, і нават сваталіся-б інача: сваталіся-б вы да мяне, а ня сват да маіх бацькоў.

Яны ўжо шмат разоў зьмерылі вуліцу, і Настулька ціха затрымалася каля свае хаты.

Хоць ня цёмна было, але Міхасю здавалася, што тут на двары шмат цямней, як у хаце, дзе нязручна будзе ў вочы глядзець выпіўшым старым. Ён, хоць і ня зусім адважна, у нейкім спанталычаньні, запрапанаваў:

— Давайце зробім *ешчо* адзін *кругообзор*...

— Ха-ха-ха-ха! — закацілася гучным сьмехам Настулька,—кругаабзор!!! Гэта што за зьвер такі?.. Ізноў вы русіць пачынаеце... Не, — будзе на гэты дзень, ногі ўжо баляць і спаць пара, бо заўтра працаваць трэба... Хадзем у хату.

Яна рашуча пацягнула Міхася за рукаў у бок хаты, дзе старыя, чуючы гучны Настульчын сьмех, рашылі, што ўсё ідзе якнайлепш, і што вясельная чарка на сьв. Пётру заскача па стале, за якім яны ўвесь час сядзелі, п'ючы ды курачы табаку.

III.

Сват вылез з-за стала, каб выйсьці каня паглядзець. Міхась скокнуў за ім, хапаючыся запрагаць. Яму нязручна было далей заставацца каля Настулькі, чуў, што ляпнуў запраўды недарэчы гэты свой „кругаабзор“ і нават проста злы быў на самога сябе, што палухаў, калі яму раілі ехаць у сваты да Настулькі.

„Гэта-ж паненка нейкая, — падумаў сабе,—толькі прыкідаецца простаю дзяўчынаю, гаворыць проста, і гэтак складна ўсё ў яе выходзіць, быццам у вучыцелькі якой“...

Ён кінуў сьвату некалькі выразных словаў пацыху. Той зразумеў, што тут больш яму няма чаго рабіць, як толькі хутчэй разьвітацца з усімі, каб праз тыдзень сватацца ў іншым месцы.

Няварта пісаць аб простай сялянскай цэрамоніі разьвітваньня. Успомнім толькі, што Міхась, падаючы Настульцы руку, ня мог ціха не сказаць:

— Ня злуйце на мяне.

— За што? — адказала Настулька пытаньнем і выйшла на двор разам з бацькамі, праводзіць ад'яжджаўшых.

Конь адпачыў і адразу рушыў з месца быстрымі шагамі. У цемнаце нейкі час чуваць было, як тарахцелі калёсы.

Настулька пайшла за гумно ў бок рэчкі, накінуўшы на плечы цёплую хустку. Прайшла сьцежкаю да загібу ракі, дзе яна тварыла шырокую ціхаводную бухту. Тут, як магутныя вартаўнікі руністай сенажаці, стаялі побач два магутныя дубы-равесьнікі. Невядома, ці шчодры капрыз прыроды паставіў іх даўно-даўно тут, ці мазалістая рука Настульчыных прашчураў пасадзіла іх. Кожны год вясною, а часта нават і летам у часе доўгіх дажджоў рэчка вылівалася з берагоў сваіх, затапляла сенажаць на вялізную шырыню, якую ледзь вока чалавечага ахапіць магло; дубы таксама ў вадзе бывалі тады, але толькі камлямі сваімі ды тоўстымі, павыступаўшымі на паверхні зямлі каменьнямі, паміж якімі цяпер было зусім суха, бо рэчка глыбока сядзела ў берагох, люстраною крыштальнаю стужкаю абгінаючы сенажаць. Лозамі і альшыною ўквечаны быў бераг з боку сенажаці, а з другога боку ўзвышаўся зусім інакшы высачэзны бераг ракі, таксама даволі густа абсаджаны дубамі, вартаваўшымі орнае поле.

(Працяг будзе).

*Краўцоў Макар.*

Віленшчыне, але нават некаторых з іх дык зусім ня хочуць пасьвячаць у сьвяшчэньнікі. Праўда, недаючы ім прыходаў тлумачацца тым, быццам няма вольных мейсц. Аднак у гэтай-жа Віленшчыне ў гэты самы час знаходзяцца мейсцы для расейцаў (сьв. Голосов, сьв. Саковіч, сьв. Демьяновіч і інш.), пераважна яшчэ студэнтаў другога ці трэцяга курсу Тэолёгіі. Словам, зусім сьведама недапушчаюць беларусаў на пастырскую працу сярод свайго народу, пакідаючы яго часта на апеку людзей, якія ідуць прапаведываць не ісьціны Хрыстовы, але ідэалы «единой неделимой».

Здавалася-б, што пасьля леташніх *пачаеўскіх* падзеяў расейцы павінны былі-б урэшце зразумець, што нельга выкарыстаць царкву для нецаркоўных мэтаў, што 90% вернікаў Праваслаўнае Царквы ў Польшчы—гэта украінцы і беларусы, якія хочуць мець сваю родную беларускую ці украінскую царкву і на гэта ўрэшце маюць права, а да ідэі велікарасейскае палітыкі ў царкве адносяцца ня толькі нэгатыўна, але проста варожа.

Такое засьляпленьне сваім вялікадзяржаўніцтвам выстаўляе царкву на найвялікшую небясьпеку — проста кажучы разбурае царкву, заганяючы тысячы вернікаў ў каталіцтва, вунію ды сэктанства.

Вяртаючыся да вышэйапісаных роўненскіх падзеяў, мусім сьцьвердзіць, што ўсё беларускае праваслаўнае грамадзянства глыбока абурана гэтымі фактамі і чакае ад Вышэйшай Царкоўнай Улады заслужанай кары для тых, хто зьняважыў царкву і епіскапскі сан.

Адносна-ж ўспомненай справы беларускіх абсольвэнтаў тэолёгіі, *беларускае грамадзянства спадзяецца, што Архіепіскап Хвядос*, не зважаючы на розныя закулісныя нашэптваньні, *знойдзе ім месца ў Віленшчыне ці Лідчыне* і гэтым паложыць канец тым слушным з боку беларусаў нараканьням, якія ўжо не аднойчы выказваліся на гэтым месцы. *Ф. З.*

## Хто забіў міністра Б. Перацкага?

Як падае „Gazeta Polska“ забойцаю міністра Б. Перацкага з'яўляецца, быццам, сябра т. зв. Украінскае Нацыяналістычнае Арганізацыі.

Згодна з заявай міністра Юстыцыі п. Міхалоўскага, у руках улады знаходзяцца ўжо дзьве асобы, удзел каторых у вышазначаным праступленьні з'яўляецца безумоўным.

Сам жа аднак забойца, паводле заявы таго-ж Міністра, знаходзіцца ў сучасны мамэнт паза межамі Польшчы і злавіць яго няма вялікай надзеі.

# Гаспадарчы аддзел.

## Як немцы паляпшаюць сваю гаспадарку.

*Новыя расьліны і палепшаньне старых.* Як падае польская прэса (Słowo): „навучаныя сумнымі досьледамі сусьветнай вайны, немцы, падгатаўліваючыся да новых забурэньняў, стараюцца ўсімі сіламі забясьпечыць сабе адпаведную колькасьць расьліннага сырцу, у гэтым ліку перадусім харчоў і пашы. У гэтай галіна яны дапялі ўжо столькі, што збожжа і бульбы маюць ня толькі патрэбную для сябе колькасьць, але нават надвыжку, з якой няведаюць што рабіць“.

*Унівэрсальны лубін.* Аднак не зважаючы на гэта зазначаецца недахоп кармавых матар'ялаў, зьмяшчаючых большую колькасьць бялкоў, што змушала немцаў да закупу кармавых расьлінаў заграніцай. Выдаткі гэтыя даходзілі да чэцьвярці міль'ярда марак у год.

Патрэба—матка вынаходкаў.

Вось удалося адной з нямецкіх Дасьледчых Станцыяў у Мюнхенбэргу выгадаваць лубін, пазбаўлены атрутных своласьцяў. Паводле аблічэньняў ужо гэтай восені кінецца на рынак каля 20,000 асьмінаў салодкага, жоўтага лубіну. У хуткім часе мае быць выпрадукаваны салодкі лубін сіні й белы.

Далей, гэтая самая Дасьледчая Станцыя працуе над тым, каб з лубіну выгадаваць такую адмену, з каторай можна было-б вырабляць алей. Робленыя досьледы ў гэтым кірунку далі таксама добры вынік — удалося выгадаваць лубін, які адзначаецца вялікай колькасьцяй туку.

*Палепшаньне збожжа.* Немцы як ведама дапялі надта высокай ураджайнасьці збожжа, аднак на гэтым не затрымаліся. Агранамічныя Дасьледчня Станцыі ў Нямеччыне працуюць над гадаваньнем такой адмены збожжа, каб яна была адпорная на ўсялякага роду хваробы як: іржа, спарыньня і інш. ад чаго ўраджайнасьць яшчэ больш павялічыцца.

*Мяшаньне пшаніцы з жытам.* Удалося так-сама скрыжаваць пшаніцу з жытам. Такімі мяшанкамі ўжо засеяны цэлые гоні Дасьледчых Станцыяў і пры помачы падбору магчыма ўдасцца атрымаць збожжа зьмяшчаючае лепшыя бакі жыта і пшаніцы.

*Бульба.* Далей працуецца над вырабаткаю адпорнасьці бульбы на атмосфэрычныя дзейнікі. Чым унезалежніцца ў большай меры ўраджайнасьць бульбы ад атмосфэрычных зьменаў.

*Яблыкі.* Як ведама ў Нямеччыне яблыкі дасьпяваюць даволі позна тады, як ужо рынак перапоўнены заграпічнымі яблыкамі. Дык вядуцца так-сама досьледы над атрыманьнем гандлёвай адмены яблык, якія-б на нямецкім грунце адзначаліся большай ураджайнасьцю і былі здатнымі да перавозкі і даўжэйшай перахоўкі.

*Барацьба з шкоднікамі.* Шмат шкоды земляробству прыносяць рознага роду шкоднікі. Вядзецца і ў гэтым кірунку усіленная праца, каб вынайсьці спосабы нішчэньня рознага роду шкоднікаў.

*Каўчук з ліхазельля.* Каб унезалежніцца ад прывазнога каўчуку, якога брак можа сільна адбіцца ў выпадку вайны, Немцы робяць досьледы над гадоўляй расьлін якія-б маглі расьці на благой зямлі і з якіх можна было-б вырабляць каўчук.

Падобна ўсе вышуспомненыя спробы немцаў далі здавальняючыя вынікі *Ві—скі.*

---

## Спяшаймася з заворваньнем іржышчаў.

Іржышча, застаўшаяся пасьля збору азімага збожжа, гаспадары нашы звычайна заворваюць позьняй восеньню, а да гэтага часу на іх пасуць жывёлу. Ад такога гаспадараваньня карысьцяў мала, а шкоды вялічэзныя. Паша з іржышчаў ліхая; глеба-ж, застаўшаяся даўжэйшы час не заворанай, траціць свае добрыя якасьці і, апрача таго, становіцца амаль немагчымым ачысьціць яе ад ліхазельля.

Пасьля збожжа глеба заўсёды мае горшую будову, чым пасьля іншых гаспадарчых расьліны. Збажовыя расьліны слаба зацяняюць глебу, а дзякуючы гэтаму набіраюць вагі ўсе тыя чыннікі, якія руйнуюць яе добрую будову. Глеба зьлягаецца, становіцца цьвёрдаю, не хапае ёй вільгаці, стрымліваюцца жыцьцёвыя працэсы тых глебных бактэрыяў, якія прыгатаўляюць пажыву для расьлінаў. Дзеля гэтага, пасьля жніва, трэба як найхутчэй направіць кепскую будову глебы, бо яна ў гэты час, страціўшы і тое слабое расьліннае пакрыцьцё, вельмі шпарка набірае благіх якасьцяў. Адсюль вывад, што гаспадар ні на што не павінен зважаць, *а, як толькі зжаў збожжа, іржышча зараз-жа плытка прыараць.* Узьнікшыя пры ворцы груды трэба абавязкова разьбіць, што можна зрабіць бараною, а найлепей вальцам.

Чаго-ж дасягаецца гэтай неадкладнай воркай іржышча?

— Папершае, успульхнены верхні тонкі пласт глебы не дапушчае да далейшага выпароўваньня вільгаці, а разам з тым робіць магчымым лепшы доступ паветра ў глебу і, апрача таго, такая глеба мае большую здольнасьць упіваньня дажджавое вады. Далей, насеньня ліхазельля, якога шмат насыпаецца перад і ў часе збору збожжа, будучы прыгорнена зямлёю, прарасьце і будзе зьнішчана пазьнейшым баранаваньнем або восеньняю воркаю. Заворанае-ж іржышча пачне перагніваць. Усё гэта, разам узятае, дадатня ўплывае на выдабрэньне зямлі стасоўна, як да будовы глебы, так і да вытварэньня расьліннае пажывы.

Прыворваньне іржышч заразжа пасьля жніва можа быць правілам стасоўна амаль што да большасьці глебаў, бо ўсе яны маюць у сабе пэўны працэнт глiністых частак, якія вызначаюцца здольнасьцю паглынаньня расьліннае пажывы.

Зусім іншая справа, калі мы маем вельмі бедную пяшчаную глебу. Тут глебу, пазбаўленую расьліннага пакрыцьця, прапалоскваюць дажджы і вымываюць тыя нязначныя колькасьці расьліннае пажывы, якія там вытварыліся і якія ня могуць быць паглынены праз нястачу гліністых складнікоў. Калі мы такое поле ўзгаром, то арганічныя матэр'ялы ў ёй будуць раскладацца яшчэ глыбей і выпалосквацца дажджамі. Дзеля гэтага бедныя пяшчаныя глебы пасьля жніва трэба пакінуць ня воранымі аж да позьняе восені і толькі ў восені моцна пабаранаваць з мэтаю зьнішчэньня ліхазельля. Пры гаспадараваньні на пяшчаных глебах найлепей трымацца наступнага лёзунгу: *„не пакідаць не абсеянай ральлі, а поле павінна быць усьцяж зялёным“*. Гэта знача, што гаспадараваць на пяшчаных глебах трэба так, каб падсеўныя расьліны мелі як найшырэйшае застасаваньне.

Апрача ўсяго вышэй сказанага, мусім тут яшчэ зазначыць, што прыворваньне іржышча на палях сільна заросшых пырнікам праводзіцца трошкі адменным спосабам. Іржышча на такім полі заворваецца таксама плытка, але сама ворка павінна праводзіцца шыбка, каб пласты кладіся не плашмя, але што найболей на сторч. Апрача таго, такая ральля адразу не барануецца і ня прыкатваецца вальцам, як звычайна, а пакідаецца на пару дзён прасохнуць і толькі тады выцягваецца пырнік павольным баранаваньнем. Калі ўсяго пырніку такою воркаю і баранаваньнем цалком ня зьнішчылі за адзін раз, то гэтую апэрацыю трэба паўтарыць яшчэ раз у восені. Толькі што прыведзены спосаб барацьбы з пырнікам адносіцца да глебаў лёгкіх. На цяжкіх глебах узоранае поле не пакідаецца прасхнуць, а адразу-ж барануецца з мэтаю ачышчэньня яе ад пырніку, бо з засохшчае цяжкае глебы цалком немагчыма выдабыць карэньня пырніку. *З. К.*

## Як ачысьціць збожжа ад спарыньні.

Спарыня або т. зв. ражкі зьяўляецца пераважна ў жыце і выклікаецца асобым грыбком; у каласох жыта сярод здаровых зернят пападаюцца адзінокія вялічэзныя зерняты фіалетава-шэрага колеру зверху і белага ў сярэдзіне. Хвароба гэта вялікіх шкодаў жыту ня робіць, але ражкі самі па-сабе зьяўляюцца труцізнай для людзей і жывёлы. Калі ў 50 кілёграмах мукі ёсьць 1 кілёграм спарыньні, то такая мука ўжо ёсьць шкадлівая для здароўя.

Калі ражкі спарыны знаходзяцца ў насеньні, то яны надалей заражаюць пасеў. Дзеля гэтага, як насеньне, так і зерняты, якія ідуць на спажываньне, павінны быць ачышчаны ад спарыны. Для ачысткі зернят жыта ад спарыньні маецца вельмі добры і просты спосаб. Спосаб гэты палегае ў наступным.

У 50 літрах (4 вядры) вады распушчаецца 16 кілёграм (1 пуд) звычайнай солі. Пасьля бярэцца рэшата ў яго насыпаецца жыта таўшчынёю ў 2 пальцы; рэшата з жытам апушчаецца ў рошчын солі, пры гэтым зярно перамешваецца; зерняты жыта застаюцца на дне рэшата, а ўся спарыньня ўсплыве на паверхню вады. Усплыўшую спарыню можна сабраць маленькім сіткам або лыжкай. Вынятае з рошчыну солі збожжа трэба прамыць чыстаю вадою і высушыць. Спарыню таксама высушыўшы можна прадаць у аптэкі

# БЕЛАРУСКАЯ ХРОНІКА.

## У Вільні.

— Па атрыманым вестках выехаўшыя на правінцыю дэлегаты-інструктары ТБА аб'езьдзілі некаторыя раёны ў Лідчыне ды ў гмінах Лебядзёўскай, Палачанскай, Забрэскай, Валожынскай, Маладэчанскай, Гарадоцкай.

Гэтымі днямі выяжджае ізноў чатырох дэлегатаў ад ТБА у іншыя раёны.

— *Відаць спракудзіліся.* Як падае „Kurjer Wil.“ 8 ліпня адбыўся ў Несьвіжы агульны сход асаднікаў. Зьезд ня даў абсолюторыуму ўраду і ня прыняў фінансавай справаздачы за мінулы год.

Відаць, што ня зусім добра гаспадарылі паны асаднікі.

А ўсяму бяда прывычка. — Прывыклі нядбала гаспадарыць на сваёй гаспадарцы, дык думалі, што так можна й на грамадзкай.

— *Францускі консулят у Вільні.* Ходзяць чуткі, што ў найхутчэйшым часе мае быць адчынены францускі консулят у Вільні. Ня ведама толькі, ці консулят будзе дыплёматычны, ці ганаровы, падобна да эстонскага і гішпанскага якія існуюць у Вільні.

— На днях у Троках пад Вільняй адбыліся на тамтэйшых вазёрах водныя міжнародныя гонкі. Прыбылі туды вяслярскія дружыны з Нямеччыны, Латвіі, Варшавы, Горадні і Вільні. Некалькі першых мейсц і нарадаў здабыў беларускі студэнт з Вільні Юры Кепэль. Ён-жа ў мінулым годзе здабыў таксама некалькі першых нарадаў у Вільні і ў Латвіі. Польская прэса расхваляе яго, на ўсе лады і прарочыць яму прыгожую будучыню. Але ніводная з польскіх газэт ня мае адвагі сказаць, што ён зьяўляецца беларусам. Можа гэта і таму, што яго прозьвішча на старонках польскіх газэт пішыцца як—Keppel, маўляў гэта нейкі апалячаны немец. Ня думаем, каб гэта рабілася са згоды самаго Кепэля, аднак варта яму на гэта зьвярнуць увагу, а то чаго добраго, яго хутка пачнуць велічаць як von Keppel а тады і родны бацька не дагадаецца, што гэта гутарка аб яго дзіцяці.

## На правінцыі.

*Валожынская* гм. Вас ужо больш году як у нашай гміне то там то сям можна спаткацца з беларускай газэтай „Родны Край“. З якой ахвотай людзі чытаюць і слухаюць газэту у роднай мове. Але як мы дачуліся, у іншых гмінах дык навет і бібліятэкі-чытальні з беларускімі кнігамі ёсьць. А каля нас нешта нідзе пра біблятэкі ня чуваць. Як мы даведаліся, што бібліятэку-чытальню можна залажыць і ў нас, то парадзіліся між сабой і згадзіліся плаціць па некалькі грошай у месяц за чытаньне, абы толькі можна было кніжкі даставаць у

роднай мове. А можа рэдакцыя памагла-б нам у гэтай справе. Мы за гэта былі-б вельмі удзячны.

*Валожынец.*

*Маладэчна.* Сёлетняя вясна варажыла раньні сенакос, аднак халады затрымалі рост травы. У некаторых мясцох карані травы так памерзьлі, што толькі апошнімі днямі пачала парастаць маладая травіца. Як відаць дык сёлета з кормам для жывёлы будзе цяжкавата, асабліва ў тых гаспадарках, дзе сенакосу наагул мала. І гэта ня толькі ў нашай ваколіцы, але і ў іншых мясцох. Праўда ўраджай не ўспадзеўкі вышаў добры, як жыта так і ярыны.

Але невядома, як яно дойдзе да рук. Тым часам сенакос кончылі, сена сабралі вельмі мала, вось і думаем, як гэта прахарчаваць жывёлу. Да дваровых сенакосаў дык цяжка прыступіцца. У канторы ўсё роўна як дзе на ліцытацыі—людзі адзін перад другім падвышаюць цану, абы дастаць які кавалачак сенажаці, але ня кожнага на гэта хопіць, бо цяжка з грошам, няма дзе зарабіць, каб і як хацеў.

*Малады.*

# З краю.

## Новы закон у справе забавязаньняў у заграничнай валюце.

Даўнейшы закон у справе зацягваньня ўсялякага роду забавязаньняў, як заграничных так і краёвых, дазваляў паслугоўвацца ці то валютай заграничнай ці краёвай, выходзячы з таго залажэньня, што такі лібэралізм прычыніцца да ўзмацаваньня даверра да злотага. У сувязі з гэтым вытварыўся даволі цікавы стан: прамыслоўцы, купцы а нават сяляне пачалі ўва ўсялякіх транзакцыях паслугоўвацца ў шырокай меры заграничнымі грашыма ангельскім фунтам, а пасьля яго дэвалюацыі — далярамі і залатымі расейскімі рублямі (апошнімі пераважна сяляне). Далярамі паслугоўваліся таксама некаторыя фінансавыя інстытуцыі, бо гэтага вымагала жыцёвая патрэба. Сталася так, што апрача польскага злотага меў шырокі абег у жыцьці гандлёвым (ходзіць аб забавязаньня) і нават прыватным даляр і залаты рубель. Вытвараны ненармальны стан быў зьявішчам нездаровым, бо на спадак ці паднясеньне курсу даляра мог заўсёды мець уплыў Урад Злучаных Штатаў, прычыняючы шкоды тым, якія зацягвалі забавязаньня ў далярах. Зьнясеньне кляўзлі залатога даляра ў Злучаных Штатах (5 чэрвеня 1933 г.) і яго інфляцыя прычынілася да таго што крэдытары панесьлі страты больш-менш на 40%.

Бяручы вышэйшае пад увагу — выдана распараджэньне 12 чэрвеня 1934 (Dz. U. R. P. z 7 lipca 1934 г.) адносна *забавязаньняў у валюце заграничнай.* Дэкрэт гэты мае на мэце забарону зацягваньня забавязаньняў і на прышласьць у валюце заграничнай (дазваляе толькі ў выняткавых выпадках), і дазваляе на сплату старых забавязаньняў, выражаных у заграничнай валюце, польскімі злотымі (а не, напрыклад, далярамі ці іншымі грашыма), паводле курсу варшаўскай біржы ў пярэдадні заплаты. Шырэйшы зьмест успомненага дэкрэту будзе пададзены ў наступным нумары.

## Выясьненьня для падатнікаў.

На падставе новага закону у справе платы падаткаў, усе, на каго наложаны падатак, маюць права, у працягу 14 дзён ад дня атрыманьня „наказу платнічага", дамагацца дадатковых выясьненьняў адносна істоты падатку, якія будуць давацца заінтэрэсаваным у пісьменнай форме скарбовымі ўладамі.

**Пашырайце нашу газэту.**

## Устрыманьне эгзэкуцыяў скарбовых.

Скарбовыя ўлады ўстрымалі эгзэкуцыі падатковыя ў рольніцтве на час жніва. Эгзэкуцыі на вёсцы ўзноўлены будуць па 15.VIII.

## Новы падаткавы закон.

Падаткавы дэпартамэнт пры мін. фінансаў у Варшаве заканчвае праект закону адносна новага і аднолітага падатковага сыстэму. Прадбачваецца спэцыяльны парадак і процэдура пры адрачэньнях і раскладаньнях на раты падаткаў. Асобае распараджэньне будзе рэгуляваць спосаб накладаньня падаткаў. За пасярэдніцтвам судоў будзе ўведзена спэцыяльнае падатковае разследаваньне, гэта значыць, што як скарбовыя ўлады так і той, на каго наложаны падатак, будуць мець права дамагацца выслухоўваць пад прысягай сьведкаў адносна гандлёвых абаротаў, высокасьці фактычнага даходу і г. д.

## Льготы для нова-будаваных будынкаў.

7 чэрвеня г. г. абвешчана новае распараджэньне Міністра Фінансаў (Dz. U. R. P. № 55, poz. 494) з мэтай зрэальзаваньня ўставы з 24. III. 1933 г. ў справе льготаў для нова будаваных будынкаў.

Распараджэньне гэтае абгаварвае па чарзе льготы адносна: дзяржаўнага падатку ад нерухамасьцяў, дзяр. даходнага падатку і штэмплёвых марак, у камунальным падатку ад тавараў, прывожаных чугункамі.

Льготы ў справе дзяржаўнага падатку ад нерухомасьці маюць застасаваньне да ўсялякага роду будынкаў, будаваных ці то ў месьце ці на вёсцы, калі будаваньне або перабудаваньне будзе закончана ў часе паміж 1-ым красавіком 1933 году да канца 1940 г. Льготы ў справе даходнага падатку у сэнсе звальненьня ад гэтага падатку на працяг 15 гадоў нова збудаваных дамоў, маюць застасаваньне да дамоў будаваных у гарадох. Льготны 15-ці гадовы час распачынаецца, пасьля падаткавага году, наступаючым пасьля гаспадарчага году, якім закончана будова, звальненьне ад штэмплёвых аплатаў, датычыць будаўляных матэр'ялаў.

— Міністар заграничных спраў Язэп Бэк едзе 20 г. м. з афіцыяльным візытам у Талін (Эстонія). Выезд гэты зьяўляецца рэвізытам на візыт эстонскага міністра загран. спраў Сэльцмана, які, будучы ў Варшаве, ад імя эстонскага ўраду запрасіў мін. Бэка.

— У Варшаве 4 — 9 верасьня г. г. адбудзецца дзевяты міжнародны зьезд проці сухотаў, на які прыбудуць дэлегаты з 20 дзяржаў. Апрача афіцыяльных дэлегатаў маюць прыехаць на гэты зьезд больш, чымся 600 дактароў з розных краёў. Міністэрства апекі сполэчнай прызначыла на выдаткі, зьвязаныя са зьездам, субвэнцыю ў суме 35 тыс. злотых.

— Варшаўскі апэляцыйны суд выясьніў у сваіх матывах, у сувязі з справай якогасьці Гудэльмана, што сэквэстратар можа зрабіць асабістую рэвізію толькі у тым выпадку, калі мае на гэта *спэцыяльны дазвол*, які абавязкава павінен паказаць перад рэвізыяй, нават у тым выпадку, калі даўжнік не дамагаецца аказаньня дакумэнту.

— На становішча віленскага гарадзкога старосты назначаны п. Велавейскі, які на днях абняў урадаваньне.

— Ізноў падымаецца пытаньне адносна адчыненьня ў Вільні савецкага гандлёвага прадстаўніцтва. Саветы заінтэрасаваныя ў тым, каб мець на нашых тэрыторыях свайго прадстаўніка, дзеля таго, што ў хуткім часе маюць замер зрабіць цэлы рад вялікіх заказаў і закупаў.

З саветаў-жа будуць прывезены ў Вільню і іншыя гарады вялікшыя партыі крымскага віна і вінаграду. Ужо ў сучасны мамэнт у савецкай гандлёвай місіі ў Столпцах знаходзіцца на складзе вялікшы запас тавараў, закупленых для адпраўкі ў С.С.С.Р., і савецкіх тавараў, прызначаных для Польшчы. Перагаворы адносна бліжэйшых гандлёвых зносінаў паміж Польшчай і Саветамі ўжо пачаліся ў гэтым тыдні ў Масквы.

— Прадбачыцца, як падае «Газэта Варш.» у хуткім часе зьніжэньне цаны на сернікі, газу, жалеза і каменны вугаль. Супроць гэтай абніжцы выступае міністар фінансаў Завадзкі, тлумачучы сваё становішча тым, што абніжка можа прычыніцца да значнага абніжэньня даходаў дзяржавы. У сувязі з гэтым ходзяць чуткі аб эвэнтуальнай адстаўцы мін. Завадзкага.

— Як цьвердзяць некаторыя літоўскія газэты, у хуткім часе ў Пікілішках (летняя рэзыдэнцыя Маршалка Пілсудскага ў Віленшчыне) адбудзецца нарада адносна ўрэгуляваньня польска-літоўскіх адносін. Шырака гаворыцца таксама аб эвэнтуальным спатканьні марш. Пілсудскага з літоўскім прэзыдэнтам Смэтонай.

— У Галіччыне, з прычыны ліўняў, паўстала аграмаднае разводзьдзе. Рэкі павыходзілі з берагоў. Перарвана чугуначная комунікацыя паміж Львовам і Кракавам, а таксама іншымі гарадамі. Многа людзкіх ахвяр. Выслана некалькі ратаўнічых атрадаў. У некаторых гарадох паўсталі ўжо спэцыяльныя камітэты дзеля нясеньня помачы пацярпеўшаму насельніцтву. У сувязі з гэтым з Варшавы ў Галіччыну выехаў спэцыяльна прэм'ер мін. Казлоўскі з мін. унутр. спраў Касьцялкоўскім.

— У восені прадбачыцца абніжка цаны на цукер: цана 100 клгр. замест 138 зл. будзе каштаваць толькі 118 зл. Афіцыяльнае распараджэньне ў гэтай справе мае быць 1 кастрычніка г. г.

— У канцы гэтага месяца, або ў пачатку жніўня, прыляціць у **Варшаву** з візытай савецкая лётнічая эскадра. Праўда падобна прылеціць пяць вайсковых самалётаў найнавейшай конструкцыі на чале з шэфам савецкага вайсковага лётніцтва.

— Гандлёвае прадстаўніцтва СССР у Варшаве вядзе перагаворы з купцамі **Вільні**, у справе набыцьця вялікага транспарту бітых сьвіней для Саветаў. На абшары паўночна-ўсходніх ваяводстваў будзе закуплена 10.000 сьвіней. У сувязі з гэтым у найбліжэйшых днях прыездзе савецкая гандлёвая дэлегацыя на абшар віленскага, беластоцкага і палескага ваяводзтваў з мэтай правядзеньня гэтай транзакцыі.

— Візыта савецкіх карэспандэнтаў, якая адбудзецца ў пачатку жніўня у балтыцкія дзяржавы, будзе мець цікавы маршрут. Пасьля абзнаямленьня з Латвіяй і Літвой прадстаўнікі савецкай прэсы маюць замер вярнуцца ў Саветы праз **Віленшчыну**. У экскурсыі прыме ўдзел апрача ведамага савецкага публіцыста Радка, таксама Бухарын.

# За граніцай.

× Паміж *японскім і манджурскім* урадам адбываюцца перагаворы адносна урэгуляваньня справы з *Манголіяй.* Ваенная конвэнцыя японска-манджурская агранічваецца выключна да абшару Манджуры, якую хочаць расшыраць і на частку абшару Манголіі. Абшар Манголіі, у сувязі з перагаворамі, мае быць злучаны з Манджурыяй.

Савецкія улады занепакоены. Выслалі свайго пасла (ў Анкары) Карахана у сталіцу Манголіі, дзе вядуцца другія перагаворы з Мангольскім урадам адносна палітыкі на Далёкім Усходзе. Вынікі гэтых пэртрактацыяў пакуль што ня ведамы.

× Нядаўна меў вялікшую прамову у Райхстагу *Гітлер*, дзе выясьніў сваю палітыку і тыя цьвёрдыя рэпрэсіі, якія быў ён змушаны застасаваць адносна некаторых выдатных урадоўцаў і палітыкаў, а таксама кіраўнікоў штурмовых аддзелаў. Яго пекная прамова прычынілася да стварэньня прыхільнага яму настрою сярод усіх амаль прысутных.

× *Францыя* мае замер пашырыць сетку сваіх консулятаў у Польшчы. І так, у першую чаргу мае утварыць Консулят ў *Вільні*, у сувязі з наладжаньнем бліжэйшых гандлёвых зносінаў перадусім з усходнімі ваяводзтвамі.

× Як падаюць *нямецкія* газэты, у хуткім часе трэба спадзявацца зрачэньня са свайго становішча, ужо вельмі старога Прэзыдэнта Гіндэнрурга. Абвешчаньне ў справе яго дымісіі зьявіцца найпраўдападобней 2 га верасьня, калі Гіндэнбургу споўніцца 87 гадоў. Ужо і цяпер Гіндэнбург амаль не бярэ удзелу у дзяржаўна-палітычным жыцьці з прычыны хваробы, пражываючы ўвесь час у сваім дварцу у Найдэк. Абгаварваюцца новыя кандыдатуры на становішча райхспрэзыдэнта. Найпаважнейшыя з іх, гэта Гітлер і прыяцель Гіндэнбурга, камандзір райхсверы — гэнэрал Блёмбэрг.

× *Японскае* марское міністэрства абвесьціла, што у першых днях прышлага месяца адбудуцца вялікія манэўры японскага флёту, якія будуць прадаўжацца да канца кастрычніка. Агульны лік ваенных караблёў, якія возьмуць удзел у гэтых манэўрах, дасягае да 180, апрача гэтага яшчэ больш 200 ваенных самалётаў.

× У *Сан-Францыско* паўстала агульная забастоўка работнікаў. Ваеннае палажэньне яшчэ не абвешчана, аднак вуліцы гарадоў робяць ўражаньне ваеннага лагера. У горад ўвайшло рэгулярнае войска пехота і артылерыя, што прычынілася да сьпешнага будаваньня работнікамі на вуліцах барыкадаў.

Палажэньне вельмі паважнае, дзеля таго што гэтая забастоўка лічыцца аднэй з найвялікшых за апошнія 30 гадоў. У сувязі з гэтым мае выехаць у Сан-Францыско прэзыдэнт Рузвэльт, каб асабіста прычыніцца да зьліквідаваньня забастоўкі.

× У Саветах апошнімі часамі наступілі паважныя зьмены ў дзяржаўным жыцьці ў сэнсе зрэфармаваньня ОГПУ, падпарадкаваючы яго міністэрству унутраных спраў. Усе карн-я справы будуць перададзены ў адпаведныя суды. Абсалютныя і самавольныя правы ГПУ зьнесены; мае права яно толькі ссылаць у концэнтрацыйныя лагеры і „в места отдаленные" да 5 гадоў. Што праўда, і гэтага хопіць дзеля стасаваньня тэрору!

Характэрна адцеміць, што кіраўніком міністэрства ўнутраных спраў назначаны б начальнік ОГПУ (наступнік Дзержынскага)— Ягада, імя якога выклікае толькі чорныя ўспаміны.

# Паштовая скрынка.

*Плаўсюку Б.* (Барановічы). Ліст Ваш атрымалі дзякуем, выкарыстаем у наступным нумары. Пішыце яшчэ, больш аб жыцьці ў сваей ваколіцы. Адносна залажэньня аддзелу ТБА і бібліатэчак—пастараемся пад канец прышлага месяца прыслаць свайго інструктара. Дакладней паінфармуем Вас аб усім у лісьце.

*Рэдакцыя.*

**Перачытаўшы газэту — перадай другому.**

Рэдактар: М. СІНЯЎСКІ. Выдавец: ТБА. Друк. Я. Левіна Вільня, Нямецкая вул. 22.